*Новая тема*

# Беларусь космическая? А почему бы и нет!

**Многое изменилось за последнее время... Даже прежде совершенно секретный город, где находится Главный командно-измерительный комплекс министерства обороны (теперь уже России), стал известен как Голицыно-2. Как и раньше, сюда сходятся все нити связи и управления различными космическими аппаратами: от пилотируемых кораблей и орбитальных станций до метеорологических, навигационных спутников, а также аппаратов связи, оптической и радиотехнической разведки.**
**Объем информации, получаемой только за одни сутки, превышает количество печатных знаков, содержащихся в шестистах комплектах 50-томной Большой Советской Энциклопедии. А распоряжаются ею с помощью самых современных ЭВМ высококвалифицированные специалисты космических частей министерства обороны.**

Однако космос может с успехом использоваться не только в оборонке, но и в сугубо гражданских целях. Так, дистанционное зондирование земной поверхности уже давно применяется для решения практических задач в интересах геологии, сельского, водного, лесного хозяйств, геодезии, картографии, охраны окружающей среды. Сегодня нет нужды доказывать, что снимки, сделанные с околоземной орбиты, позволяют эффективнее и быстрее решать те или иные проблемы.

...Передо мной на мониторе фотография одного из районов республики, сделанная космическим аппаратом. С первого взгляда она напоминает картину художника-абстракциониста. Какие-то желтые, синие, зеленые, коричневые пятна и пятнышки. Сразу обращает на себя внимание обилие красного цвета.

— Это сигнал экологического неблагополучия, знак тревоги, — поясняет мне оператор. — С помощью спутников можно постоянно следить за экологической обстановкой в СНГ, в том числе и в Беларуси. Обработанные данные дают объективную картину изменений, происходящих в природной среде, в том числе и под воздействием человека.

Вот смотрите, как загрязнены эти районы, а здесь настоящая "опухоль". Теперь взгляните на цвет реки. Выше города она синяя, а ниже — густо красная.

На других снимках хорошо видно, как гибнет от промышленных выбросов лес. В другом районе спутник зафиксировал сильное задымление — здесь высокий уровень радиации.

— Но ведь такая информация для нас просто бесценна!

— То, что вы видите, — это наши архивы, старый материал, — продолжает оператор. — Мы давно готовы обрабатывать и предоставлять в удобном для заказчика виде новые данные. Если раньше мешала излишняя секретность, то сегодня это просто одно из направлений конверсии.

... Эта встреча состоялась немногим более года назад. Я возвращался в Гомель и думал о том, как необходима такая правдивая информация городу (области, республике) именно сейчас. Ведь благодаря ей мы с куда большим эффектом смогли бы бороться с экологическими проблемами, а параллельно решать и другие задачи. Думаю, что в архивах до сих пор хранятся и "послечернобыльские" снимки (в том, что они производились, можно не сомневаться — спутники оптической разведки фиксируют даже костер в лесу).

Обработкой фотографий, полученных из космоса, занимаются и в Минске. Я познакомился с заместителем директора по науке Института технической кибернетики Академии наук Республики Беларусь, руководителем лаборатории Борисом Береговым. Вот что он рассказал:

— Созданные нами программы позволяют вводить такие снимки в компьютер, корректировать и улучшать их качество, устранять геометрические и яркостные искажения, "сшивать" отдельные фрагменты, — рассказывает Борис Семенович. — Наши методы расшифровки информации позволяют выделять хвойные и лиственные леса, участки повышенной влажности, луга или бросовые земли. Программы сориентированы на стандартные ЭВМ и обеспечивают высокую производительность. Не случайно ими заинтересовались немецкие, французские и швейцарские ученые.

— Но ведь аналогичные и даже более углубленные разработки уже давно используются в некоторых странах?

— Верно, но чтобы их купить, требуются большие деньги. Кроме того, нужна адаптация к нашим ЭВМ, что не на много проще, чем создать собственную программу. Правда, для этого нам необходима свежая информация из космоса.

Действительно, если раньше белорусским ученым хоть что-то перепадало от союзного "стола" (например, были проведены наблюдения за выбросами в атмосферу крупнейшей в республике теплоэлектроцентрали, изучалось состояние системы нарочанских озер, проводились исследования территорий, на которых идет добыча калийных солей и т.д.), то сейчас на помощь России особо рассчитывать не приходится.

Если мы действительно хотим идти в ногу с цивилизованными государствами, которые уже давно и успешно используют космическую информацию, без сотрудничества с российским и другими космическими агентствами Беларуси просто не обойтись. В нашей республике есть целый ряд предприятий, которые давно и с успехом работают на космос. Это, в частности, белорусское оптико-механическое объединение с ЦКБ "Пеленг", научно-производственное объединение "Центр", завод "Измеритель" и другие, а также несколько академических институтов. Самой высокой оценки специалистов заслужила микропроцессорная система СКИФ-М, созданная группой белорусских ученых. Есть и новые оригинальные разработки, которые делают честь нашей науке.

Наконец, свой вклад в решение многих поставленных проблем могла бы внести и авиация. Ведь иногда совсем не обязательно выносить пробы на околоземную орбиту, благо, что территория Беларуси не такая уж и большая. И не только потому, что экологические проблемы в республике обострены до предела и чисто "земными" методами их решить просто невозможно. Остановившись в своем развитии сегодня, наша аэрокосмическая наука и техника окажутся завтра на задворках цивилизации.

**Владимир ЛАРИОНОВ.**

*Голицыно-2— Минск— Гомель*

*Ва ўрадзе рэспублікі*

## Назначэнні

Наменснікам старшыні Дзяржаўнага мытнага камітэта Рэспублікі Беларусь назначаны Вікенцій Вікенцьевіч МАКАРЭВІЧ.

Намеснік старшыні Дзяржкамітэта па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва Іван Іосіфавіч СЕЛЯДОЎСКІ назначаны начальнікам Дзяржаўнай інспекцыі працы Рэспублікі Беларусь — галоўным дзяржаўным інспектарам працы.

## Страхаванне

Ажыццяўленне абавязковага страхавання пасажыраў ускладзена на Беларускую дзяржаўную страхавую камерцыйную арганізацыю.

Страхавая сума па абавязковаму страхаванню пасажыраў устаноўлена ў памеры 40 мінімальных заработных плат, а страхавы ўзнос — 2 працэнтаў ад кошту білета.

Гэта пастанова будзе ўведзена ў дзеянне з 1 жніўня 1993 года.

## Рэарганізацыя

У мэтах удасканалення судова-медыцынскай экспертызы і павышэння яе ролі ў барацьбе са злачыннасцю, абароне правоў і законных інтарэсаў грамадзян Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь прыняў пастанову "Аб дзяржаўнай судова-медыцынскай экспертызе Рэспублікі Беларусь".

Згодна з гэтым дакументам, служба судова-медыцынскай экспертызы Міністэрства аховы здароўя павінна быць пераўтворана ў дзяржаўную судова-медыцынскую экспертызу Рэспублікі Беларусь.

Міністэрству ўнутраных спраў даручана адкрыць у 1993 годзе ў Акадэміі міліцыі спецыяльны факультэт падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі судова-медыцынскіх спецыялістаў. З рэзервовага фонду Саўміна Міністэрству ўнутраных спраў будзе выдзелена ў бягучым годзе 30 млн. рублёў для адкрыцця гэтага факультэта, а 70 млн. рублёў — для стварэння новых структурных падраздзяленняў, развіцця і ўмацавання матэрыяльна-тэхнічнай базы.

## Ільготы

Распараджэннем Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь на рэлігійныя арганізацыі распаўсюджаны льготны тарыф на электраэнергію, устаноўлены пастановай Саўміна ад 28 снежня 1991 года нумар 497 для сельскагаспадарчых спажыўцоў.

Гэта распараджэнне абавязвае аблвыканкамы, Мінскі гарвыканкам і Мінфін вырашыць пытанне аб устанаўленні рэлігійным арганізацыям платы за спажываемую цеплавую энергію на ўзроўні тарыфаў за камунальныя паслугі, аказваемыя насельніцтву. А прадпрыемствам, кацельні якіх адпускаюць цеплавую энергію ўказаным арганізацыям, павінна кампенсавацца розніца паміж фактычнымі затратамі і тарыфам на цеплавую энергію для насельніцтва.

**Белінфарм.**

*г.Мінск.*

*Сорам!*

# Як у кватэры, пабудаваныя для чарнобыльцаў, уладкоўваюць "сваіх людзей"

**Віктар ЧАРНУШЭНКА, аглядальнік "Народнай газеты"**

**У цяперашні час у зонах першапачатковага і наступнага адсялення, дзе ўзровень забруджанасці радыенуклідамі складае 15 кі/км² і болей, чакаюць вырашэння свайго лёсу каля 16 тысяч сем'яў, пераважна з Гомельшчыны. Разам з тым, калі на пачатку гэтага года было праведзена апытанне ўсіх, каго належыць перасяліць, амаль палова людзей адмовіліся пакідаць свой кут. Склалася тупіковая сітуацыя...**

Сацыёлагі сцвярджаюць, што прымусовая змена месца жыхарства адымае палову здароў'я, якое пакуль што засталося. А калі яшчэ перасяленцаў сустракаюць як няпрошаных гасцей... Карацей кажучы, можна зразумець, чаму зацягваецца перасяленне чарнобыльцаў у чыстыя раёны. Толькі як быць з дзяржаўнай праграмай будаўніцтва жылля, на якую выдаткаваны вялікія сродкі?

Шмат пацярпеўшых ад аварыі знайшлі сабе прытулак у Мінску і сталічнай вобласці. Звыш 12 тысяч сем'яў напачатку выказалі жаданне пераехаць менавіта сюды. За два з паловай гады на Міншчыне прапісаліся 4610 сем'яў. Але толькі 2470 з іх прыехалі з зоны першапачатковага і наступнага адсялення. Параўнайце яшчэ дзве лічбы: жыхары вышэйуказаных зон атрымалі толькі 2236 кватэр, а фонд чарнобыльскага жылля налічвае 3689 кватэр.

Зараз спецыялісты Дзяржкамчарнобыля рэспублікі вывучаюць гэтую з'яву — куды знікаюць чарнобыльскія кватэры? Адну з брыгад, якая правярала Мінскую вобласць, узначальваў намеснік начальніка ўпраўлення капітальнага будаўніцтва і перасялення камітэта Георгій Кашкан. Вось што ён расказаў:

— Амаль ва ўсіх раёнах вобласці, дзе будавалі і будуюць дамы для чарнобыльцаў, устаноўлены факты нямэтавага выкарыстання жылля. Іншымі словамі, у чарнобыльскія кватэры пад рознымі соусамі селяць мясцовых жыхароў альбо прыезджых з далёкіх краёў, якія нават не нюхалі радыеактыўнага пылу. У Смалявіцкім раёне, напрыклад, 14 кватэр выдзелілі тым, хто прыехаў па свабодным адсяленні, а не па абавязковым, 24 — мясцовым жыхарам.

Асобная размова — якасць будаўніцтва. Справядлівыя скаргі чарнобыльцаў: нельга так здзекавацца з людзей, якім і без таго хапіла гора. Праўда, бракаробства выпраўляецца, але на гэта трэба патраціць шмат нерваў. Было такое ў чэрвеньскіх вёсках Майзорава і Чорнаградзь, у Крывой Бярозе, што ў Смалявіцкім раёне. Гэты пералік можна працягваць бясконца...

Шмат накруцілі з чарнобыльскім жыллём у гарпасёлку Узда. Пакуль кампетэнтныя органы разбіраюцца, што ды як, вырашана прыпыніць выдачу ордэраў на кватэры. А ў вёсцы Лагаза Лагойскага раёна дык "прыватызавалі" цэлы пасёлак — засялілі 12 чарнобыльскіх дамоў рабочымі калгаса. Інспекцыя Кантрольнай палаты па Мінскай вобласці вымушана была ўмяшацца ў гэтую справу. І хаця з калгаса "Лагаза" быў спагнаны поўны кошт дамоў, як кажуць, "поезд ушел..." Цяпер у гаспадарцы засталіся толькі дзве сям'і чарнобыльцаў. Трэцяя пажыла крыху ды з'ехала.

На свой капыл дзеляць жыллё, прызначанае менавіта для перасяленцаў, у Барысаўскім, Крупскім, Вілейскім, Нясвіжскім і іншых раёнах. Ніхто не пярэчыць: бываюць выпадкі, калі трэба дапамагчы ці то мнагадзетнай сям'і, ці бежанцам альбо даць кватэру спецыялісту, у якім вялікая патрэба... Але такія выпадкі не павінны практыкавацца паўсюдна. Тым больш калі ўладкоўваюць "сваіх людзей". На гэта трэба шукаць іншыя сродкі.

З другога боку, выклікае заклапочанасць тое, што частка пабудаваных дамоў своечасова або зусім не засяляецца чарнобыльцамі. На пачатак бягучага года па рэспубліцы ў цэлым пуставалі каля 2 тысяч кватэр. Чаму такое здараецца? Няма ўзгаднення паміж аблвыканкамамі — Гомельскім і Магілёўскім, з аднаго боку, Мінскім — з другога. Спісы перасяленцаў часта паступаюць са спазненнем, той, хто іх складае, не ўлічвае ўсіх абставін, не хоча заглянуць у душу чалавеку. Таму людзі і зварочваюць на палове дарогі або зусім не жадаюць пераязджаць. Для каго, напрыклад, пабудаваны 10 дамоў у вёсцы Гасцілавічы Лагойскага раёна, калі няма нават спіса перасяленцаў? Карацей кажучы, блытаніна, безадказнасць у такой складанай і неадкладнай справе.

*Правінцыяльная хроніка*

## Прыстойнаму чалавеку і працверазіцца няма дзе...

**Усё больш цяжка аплачваць душ для гарачых галоў, пасцельныя рэчы, транспарт раённым медвыцвярэзнікам.**

Ды і персаналу няма чым плаціць. Павялічваць плату за паслугі далей неразумна, бо і па цяперашняй таксе плаціць не ўсе "кліенты". Не вытрымалі рыначнага прэсінгу і закрыліся краснапольскі і слаўгарадскі медыцынскія выцвярэзнікі, на грані банкруцтва бялыніцкі і іншыя ўстановы гэтага тыпу. Страта ад работы выцвярэзнікаў у цэлым па Магілёўскай вобласці склала ўжо каля 24 мільёнаў рублёў.

## Мяняюць зорку на паравоз

**Самым умелым майстрам з баранавіцкага кааператыва "Рэстаўратар" не ўдалося спілаваць зорку са шпіля будынка, размешчанага на цэнтральнай плошчы горада.**

Па задумцы, яе павінны былі змяніць на флюгер у выглядзе маленькага паравоза. Але зорку вешалі на вякі, а таму, нямала папацеўшы на пажарных лесвіцах, рабочыя ні з чым спусціліся ўніз. Ад ідэі, праўда, улады буйнога чыгуначнага вузла не адмовіліся.

## З прыцэлам на прафесію

**"Будзем рэалістамі", — вырашылі работнікі народнай адукацыі горада Глыбокае і арганізавалі на базе мясцовай вячэрняй школы і міжшкольнага вытворчага камбіната рэальныя класы.**

У новым навучальным годзе сюды прыйдуць дзеці, якія па нейкіх прычынах не трапілі ў дзесяты клас або не паступілі ў ПТВ.

У рэальных класах будзе практыкавацца трохдзённае тэарэтычнае навучанне па агульнаадукацыйных прадметах, а астатнія дні будуць прысвечаны асваенню адной з чатырох прафесій — трактарыста, сталяра, швачкі або прадаўца.

**Белінфарм.**

## Никто не забыт?

**В Пинске открылся памятник евреям, погибшим в годы Великой Отечественной войны на белорусской земле.**

Именно Пинск, как и Бердичев, считался в свое время крупным еврейским центром и оставался таковым до погромов в 1942 году. На митинге открытия присутствовали видный израильский дипломат Хайм Бартов, редактор русскоязычного журнала, выходящего в Израиле, "Слово ветерана войны" Аркадий Тимор, представители Израильского фонда культуры и просвещения в диаспоре.

**Ирина НОЗДРИНА, БелаПАН.**

*Версия*

## Никита Хрущев — сын помещика

**Любопытную версию родословной бывшего руководителя КПСС Никиты Сергеевича Хрущева изложил в "Известиях" и местной печати пенсионер из Рогачева Федор Зайцев.**

Работая в районной ветлечебнице, Федор Кондратьевич часто разъезжал по району. В Заболотье, деревне в 10 километрах от Рогачева, Зайцев встретил человека, который еще до революции досматривал лошадей у помещиков Хрущевых. Ранее поместье принадлежало другому владельцу. Иван Хрущев был всего лишь управляющим. Хозяйской дочери приглянулся статный приказчик, и, он в конце концов, породнился с хозяевами.

После смерти помещика имение перешло к дочери и ее мужу Ивану Хрущеву. Через некоторое время к Ивану приехал брат Сергей, которому в подарок досталась земля с деревней Анновка. Влюбчивого Сергея очаровала одна из братовых служанок. Как и следовало ожидать, вскоре у нее родился сын, которого и нарекли Никитой.

**Анатолий ЛИПСКИЙ.**

*Тэатральныя прэм'еры*

## На сцэне шукаюць і знаходзяць

**Нядаўна на эксперыментальнай сцэне Беларускага акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа ажыццёўлена пастаноўка імпрэзы ў адной дзеі "Цырк Шардам". У вызначэнні жанру зроблена прыпіска: паводле адчуванняў Данііла Хармса.**

Творчасць Данііла Хармса саткана з парадоксаў, можа, таму пры жыцці яго імя ўвогуле не прыгадвалася, тэксты не перавыдаваліся. Але ў апошнія дзесяцігоддзі ў твораў Хармса пачалося другое жыццё. Вершы, апавяданні, п'есы пецярбургскага пісьменніка і сёння не страцілі радаснага ўспрыняцця свету, мудрагелістай фантазіі... бо дэвіз гэтага непаўторнага чалавека: "Пішы заўсёды з цікавасцю і глядзі на пісанне, як на свята".

"Цырк Шардам" — гэта разважанне пра месца чалавека ў жыцці. Як можна быць адзінокім, калі побач з табой людзі? Аказваецца, можна.

Арганізаваў жа ўсё тое, што адбываецца на эксперыментальнай коласаўскай сцэне, рэжысёр Антон Грышкевіч.

Коласаўцы і надалей мяркуюць ажыццяўляць на эксперыментальнай сцэне пастаноўкі неакадэмічных п'ес. Чакайце паведамленняў пра новыя прэм'еры!

**Святлана ДАШКЕВІЧ.**

*г.Віцебск.*

*Мы жывём на адной планеце*

## Атрымліваць урокі будзем разам

**Пагадненне аб ажыццяўленні сумеснага амерыкана-беларускага праекта па вывучэнню вынікаў аварыі на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі ў красавіку 1986 года заключана паміж Міністэрствам аховы здароўя Беларусі і Цэнтрам аховы здароўя пры Канектыкуцкім універсітэце.**

Згодна з распрацаванай праграмай, у навуковых пошуках будуць задзейнічаны два цэнтры ў Мінску і адзін — у Магілёве, а з амерыканскай — згаданы Цэнтр аховы здароўя.

"Даследчыкі, — адзначае ў сувязі з гэтым інфармацыйнае агенцтва ЮПІ, — выкарыстоўваюць даныя работ, праведзеных пасля красавіка 1986 года, каб прааналізаваць уздзеянне вынікаў чарнобыльскай трагедыі на насельніцтва тых раёнаў, якія падвергліся радыеактыўнаму апраменьванню". Паводле слоў дырэктара Канектыкуцкага інстытута ракавых захворванняў доктара Нікаласа Дэйніака, "гэтыя людзі вельмі моцна пацярпелі ў выніку чарнобыльскай аварыі. І ўвесь свет можа атрымаць урок з даследаванняў дадзенай праблемы".

**ІТАР—ТАСС.**

*Нам стала вядома*

## Бізнес — малы, перспектывы — вялікія

**У свеце расце ўвага дзелавых людзей да беларускіх прадпрымальнікаў.**

Па звестках карэспандэнта БелаПАН, упершыню на такім аўтарытэтным форуме, як XX Сусветны кангрэс малога бізнесу (ён пройдзе ў верасні гэтага года ў Швейцарыі), прадстаўнік Беларусі будзе выступаць з дакладам.

У склад беларускай дэлегацыі ўвойдуць 20 чалавек — прадстаўнікоў дзелавых колаў рэспублікі. Удзельнікі кангрэса будуць працаваць па трох асноўных секцыях: эканомікі, грамадскага развіцця, экалогіі і тэхнікі. Упершыню ў гісторыі кангрэса будзе разглядацца пытанне аб дзейнасці жанчын і дзяцей у сферы малога і сярэдняга бізнесу.

**Ірына ЛЕЎШЫНА.**

## Беларусь — "алмазная" рэспубліка?

**Пачалі выкананне стратэгічнага заказу ўрада геолагі Беларускай геалагічнай экспедыцыі.**

Пасля таго як на тэрыторыі рэспублікі былі знойдзены "трубкі", што ўтрымліваюць алмазы, і зроблена аэрафотаздымка, праходчыкі падземных нетраў пачалі пошук каштоўных камянёў у Жлобінскім раёне.

## Дарагая выпіўка

**Злёгку прыпужнуў аматараў спіртнога Гомельскі аблсавет.**

Мясцовыя ўлады прынялі рашэнне: за распіванне спіртных напіткаў на вытворчасці накладваць штрафныя санкцыі ў памеры ад дзвюх да пяці мінімальных зарплат, а за прыняцце алкаголю ў грамадскіх месцах або паяўленне на людзях у нецвярозым стане забіраць з сямейнага бюджэту ад дзвюх да пяці мінімальных зарплат.

**Белінфарм.**

*Памфлет*

# Нежнее, мужики!

**Павел СТАСЕВИЧ**

Когда Господь Бог сотворил мужчину, он очень быстро понял, что это ленивое существо даже в раю само долго не протянет. Шагу лишнего не ступит и всю жизнь пролежит под вечнозеленым Древом бытия.

— И—и—эх! — осенила вдруг Всевышнего дивная мысль, и он начал решительно вынимать Адамово ребро.

Любопытная и темпераментная новорожденная Ева быстро взяла дело в свои руки, и через пару дней Создатель понял: с дамой на небесах не справится даже он.

— Надо побыстрее гнать их на землю! — сообразил, наконец, прародитель, найдя зацепку в виде случившегося грехопадения.

Но на земле мужик как-то оклемался и пришел в себя. Его врожденная лень и хитрость ума так и полезли наружу.

Быстро оттерев женщину от власти, мужик решительно залез на командные высоты и оттуда начал руководить, давая ценные указания по всему спектру бурнотекущей жизни.

Мужик пил, ел, постреливал друг в дружку, брал бессрочные командировки в бессрочные путешествия в разные части Земли.

Что там делает осчастливленная им и оставленная жена-подруга, как живет, чем питается... — этим интересовались немногие.

Про роды, понятно, думалось только в розовых тонах: зреют наследнички!

О том, как чувствует себя женщина в течение девяти месяцев, мужику думать было обычно недосуг.

Отношение к этому сугубо бабьему делу меняется у мужика слабо. В городах как-то еще наши братья стараются, книжки разные почитывают, сажают женщин в воду, чтобы не мучились, носят цветы и делают понимающе-сочувственные глазки...

Да и эти-то времена проходят! Особенно в наш-то период.

Понесла, задекретила, родила... — с работы вон в первую очередь.

Умница, спортсменка, красавица, но надолго из-за детей "села на больничный" — туда же.

Они, конечно, и рады бы сидеть дома, блюсти уют, рожать и воспитывать — так кто же в нашем государстве **это** за работу считает?! Кто же за **это** достойно заплатит?!

— Не в Цюрихе живешь, дорогуша! — строго намекает держава на недостаточность своего изобилия. — Работать надо...

— Женщина — это, в первую очередь, работница! — такую простую теорему вам запросто докажет каждый.

И если, скажем, колхозная доярка еще начнет мяться, краснеть возле сорокалитрового бидона или тюка сена-соломы, намекая на округлость живота, то могут даже и послать "куда надо":

— Бери-ка ты, Маня, флягу — и не придуривайся! Поболит — и пройдет!..

Об этом свидетельствует и редакционная почта.

"...Я забеременела, — пишет в "Народную газету" женщина по имени Тома. — И когда сказала своему зоотехнику, что по закону мне должен быть предоставлен легкий труд, он ответил: "У нас легкого труда нет. А если не нравится — сиди дома".




Рисунок Олега ПОПОВА.

Обидно это слушать. Будто виновата в чем-то. А зимою, например, мы не только доим коров, но и убираем навоз. А еще трудно привязывать коров, поить телят: ведра с молоком носим в телятник сами. А еще проводим санитарные работы: белим, моем трубы и т.д. Официально мы доярки, но на самом деле разнорабочие.

А летом? Доим в полевых условиях. Подоим в бачок — и несем сливать в общую бочку. А поднимать надо надоенное выше метра...

На мое заявление, что тягать бочки я не могу, зоотехник снова ответил: "Труд доярки считается не тяжелым. Не будешь поднимать — уволим. Была уже одна такая умная в колхозе. Немного поупрямилась — а потом бачки тягала, как и все. И ничего — родила..."

При разговоре присутствовали председатель профкома и заведующий фермой, но они промолчали. Обратилась я к прокурору. Он говорит: законов у нас хороших много, а выполняется мало. И посоветовал обратиться в правление колхоза. Это значит — снова к зоотехнику...

Значит, снова мне трястись с животом в бортовой машине по ямкам и ухабам, снова тягать и поднимать тяжелые баки. И пока дождусь справедливости — то и рожать пора, если еще не скину на работе...

Я специально не пишу свой адрес и название колхоза — мой печальный опыт, вижу, мало на кого повлияет, кругом к беременным такое отношение"...

Ну, резон у Томиного начальства, конечно, есть. Тут, понимаешь, планы горят, а она рожать надумала! В такую-то горячую летнюю пору для производства молока государству! И бачки тягать и поднимать выше метра отказывается! Это ж надо!..

Стыд, словом, и позор. Потому Тома уже ни на что и не надеется и лишь стыдливо просит сообщить, права ли она, на адрес своей мамы...

Такие вот стыдливые дела, мужики из Томиного окружения...

А вот Роза Ивановна Поддубицкая из деревни Осово Солигорского района кое-какие надежды еще питает.

"Я работаю в колхозе полеводом. Муж — в школе сторожем. Живем мы в колхозной квартире. Как нам дальше жить, я уже и не знаю.

Председатель узнал, что я беременная и скоро пойду в декретный отпуск, и приказал главному агроному и бригадиру полеводческой бригады не давать мне никакой работы. Полеводом свеклу размеряли по 90 соток, мне же только 10. Специально, чтобы я не выработала трудовой минимум по месяцам и не получила деньги за декретный отпуск вообще. И я не работаю, у меня прогулы...

Как дальше жить — я просто не знаю. Ведь у меня семья: муж, два сына...

Помогите, пожалуйста, разобраться в моем трудном деле..."

Действительно, дело трудное. Труднее и придумать-то трудно. И не только у колхозниц, чьи письма процитированы выше, — почта на эту тему из села валом валит. Впечатление такое, что на местах решили помочь решению продовольственной проблемы снижением рождаемости...

— Тот ли это путь, мужики? — задаю я вопрос и себе, и вам, и всем нам. Конечно, наша женщина вредна — это каждый второй мужик скажет. И часто рожает невпопад. И требует при этом неизвестно чего. Легкий труд, мол, ей подавай. Компенсации разные и выплаты. Декретные всякие отпуска.

Характер, словом, портится на глазах. Подавай им соленого, льготы и внимание.

— А где же это все взять?! — клокочет в груди мужская гордость. — Да еще в самый неурочный переходный период к новой правовой жизни?!

Понимаю вас, мужики-братья. Сам такой.
Но иногда, правда, берет меня сомнение: не слишком ли мы суровы к противоположному полу? Даже если он в чем-то не прав? Не перебираем ли мы часом?..

Ведь поставишь себя на их место — божечки, мама родная, спасите! Слава Богу, что живешь на этом свете мужиком!

А довелось бы (тьфу-тьфу!) кому-нибудь из нас хоть раз пройти через все это, т.е. декретно-родовый период, так всю оставшуюся жизнь сидел бы и писал психологические романы о пережитом-перечувствованном однажды.

Так, может, заставим себя быть хоть немного внимательнее к тем, кто рядом: и дома, и на работе?

Хотя бы на том уровне, чтобы не выводила женская душа нежной ручкой письма-жалобы в газеты и различные инстанции. И чтобы вопросы по чисто женским делам решались без слез. Тем более что и в остальной жизни мы без наших дам — ничто. Тянут они на себе такую ношу, что только диву даешься да слеза жалости иногда упадет.

И сколько ни стараемся мы превратить их в тягловых коней государства, они все равно остаются лошадочками: тянут, но при этом не забывают и про моду, маникюр-педикюр и диету.

Нам бы такой интерес к жизни, мужики!

